ІВАН АРАБЕЙКА

# *АСЕННІ РАНАК*

ВЕРШЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1978

* * *

Мая віна, мая бяда,
І лёс адсюль такі нязвычны,
Што я за марай гнаўся ўдаль,
Забыўшы явы голас зычны.

Дзе трэба думаць, я спяшаў.
Дзе йшло на лад — я мудрагеліў.
Надзеямі жыла душа,
А сталася — маной і хмелем.

Святлелі дні ад перамог.
Дужэлі рукі ад работы.
Я ж так адолець і не змог
Будзённы круг кругазвароту.

І ў тым бяда, і ў тым віна,
Што я шукаў канца ў бясконцым,
Што ў лужы бачыў толькі сонца,
Не разглядзеўшы слоты, дна.

І хоць скачы тут, хоць ты плач,—
Я жыў — і нельга перайначыць.
І прарастала зерне ўдач
На чорных скібінах няўдачы.

## НА ДОБРУЮ ПАМЯЦЬ

У юныя годы любімай ці маме
На картачках пішам: «На добрую памяць...»
Сябруем, у святы падносім нярэдка
Хто кнігу, хто вазу, а хто дык шкарпэткі.
На ўзлётных палосах, як сцягі, трапечам.
Бо так павялося: «Да новай сустрэчы!»
Зямля каля сонца не раз пранясецца,
Не ўсё уцалее — стрыжак астанецца.
Адыдуць багі, фараоны, паэты,—
І памяць — адзіная тут эстафета.
І гэта няпраўда, што смерць немінуча:
Душа астаецца, душа неўміруча.
І першы ў плаціну пакладзены камень,
І першы букецік — на добрую памяць.
І вечна хвалюе ўтрапенне такое:
Наперад і ў памяць — і ўсё ў непакоі.
Не думаць пра славу, пра грошы, уладу,
На памяць вякам напісаць «Іліяду».
Падслухаць, як сэрца шаптала ў руінах,—
Накрэсліць на сценах на памяць Радзіме.
Згарэць у скафандры за міг да абдымкаў,
І новаю зоркай узнікнуць за дымкай.
І з высяў дзівіцца на жыта густое,
І век прамяняць над абранай вярстою...
І ў кнігі, архівы ўвайшоўшы, гісторык
Мо скажа пра час мой: «Займала на зоры».

* * *

Ціхая споведзь прыроды.
Поле, валошкі, трава.
Гэта, відаць, назаўсёды —
Жыць з аднаго хараства.

Маючы долю і рукі,
Цацку употай насіць
І за гармонію гукаў
Век беспрытуллем плаціць.

Рыфмаю, клавішам, кельмай
Толькі б намацаць яго,
Так непаўторна і хмельна,
Так верагодна яно.

Можа, пра гэта няўлоўна
Берагу шэпча рака,
І пад дугою апоўдні
Звоніць званок жаўрука.

## ДРАМЛЁВА

Цяпер ні свят, ні хат, ні мовы.
Цяпер тут памяць і трава.
Не ўстаць табе, сяло Драмлёва.
Не ўстаць — цяжкая галава.

А там за выжарам — калоссе.
А там за помнікам — палі.
Няма сяла, і вецер носіць
Маю трывогу па зямлі.

Дымок паляны палыновай...
І цішыня — вастрэй нажа.
Няма ні славы, ні Драмлёва,
Ёсць толькі неба і шаша.

## ЧЫРВОНАЕ ЗРУШЭННЕ

У выніку разбягання Сусвету спектр нябесных цел мае лініі, зрушаныя ў бок чырвонай часткі. Гэтая з'ява называецца чырвоным зрушэннем.

*З часопіса*

Я хачу, каб насустрач світанню
Шар зямны мяне вечна кружыў.
Гэта вельмі вялікая тайна,—
Наш Сусвет разбягаецца ўшыр.

Што ні міг — то хутчэй. Паскаральна
Разбягаецца зорны хаос.
Узнікае на картах спектральных
Усё болей чырвоных палос.

Іх назвалі чырвоным зрушэннем
(Сімвалічную назву далі).
З'ява мае сваё дачыненне
Да раздвоенай нашай Зямлі,

Над якою сягоння два сцягі,
Над якой правады і драты.
Вера ў праўду — вялікая цяга —
Перацягне пад сцяг праваты.

## ЖЫЦЦЁ

Так заўжды — у вятрах, навальніцах.
Доля дрэў — ці не доля твая?
Гэта ж трэба ад буры хіліцца —
І ў зацішку гайдаць салаўя.

* * *

Мой самы час удач і плёну.
На дол лісцё ссыпаюць слівы.
І над зямлёй высока тонуць
Журбы адвечнай пералівы.

Капалка чыркне часам крэмнем,
Зямлю на прэнтах апалае.
Асеннім золатам дарэмным
Рады вясёла усцілае.

І колькі б ветры ні кружылі,
Да тых мясцін любоў не счахне,
Дзе пазнаеш здалёк машыну,
Што кукурузным лісцем пахне.

І дзе дрэнаж кладуць на зіму.
І ў нівелір відно да краю.
І самы час сказаць Радзіме,
Што я ёй песню абяцаю.

* * *

Пячэ — ні воблачка нідзе,
На лузе конікі замоўклі.
І толькі чмель адзін гудзе
Вакол рамонкавай галоўкі.

Зграбаем сена, ну а дзед,
Яго прасуючы, жартуе:
— Яно як чай, карова з'есць
Яшчэ і ў рукі пацалуе.

* * *

Хочацца цішы, пяра,
Вобразнасці нечаканай,
Дзе яна, тая пара,
Як вывяржэнне вулкана?

Дзе тая лёгкасць тварыць
Толькі на ўздыху адзіным,
Нібыта радасць дарыць,
Граючы, класці цагліны.

Лёгка рукам, галаве.
Твой пачынаецца ранак.
Толькі хай лёгкасць жыве
Тая, што потам прыдбана.

Каб неспазнанае знаць,
Каб невядомае бачыць.
Дзе тая лёгкасць лунаць
На парашутах удачы?

Курыць туман паплавы...
Лёгка і ўсё ж апантана
Свеціць расінка з травы,
Бляскам абдаўшы паляну.

* * *

Я, можа, дрэвам падымуся гонкім,
Пераўзыду тым самым небыццё,—
Вы не глуміце на жардзіны, і на гонты,
І на свісцёлкі маё новае жыццё.

Я разыдуся голлем у блакіце.
Стамлёны вырай прытулю вясной.
А прыйдзе час, з камля труну зрабіце,
Людское гора пахавайце ў ёй.

* * *

Плаціць за мудрасць сумам.
У глыбіройма рыцца,
Аддаўшы сэрца думам,
Якім павек не збыцца.

Не марыць аб дастатку.
Датла, да азарэння
Спаліць грахоў астаткі
На вогнішчы сумлення.

Людскім слязам, трывогам
Найперш за ўсё аддацца.
І да сябе самога
Тады-сяды вяртацца.

І так без перадышкі...
І ў самым светлым мігу
Ў жыцця на хмельных вышках
З акенца даль спасцігнуць.

## ВЯТРАК

Пад шум вятроў ён чэсна, мірна
Даўно свае адклыгаў дні.
Калі калгас узводзіў свірны,
Былі патрэбны камяні.

І іх цяжэзнымі ламамі
(Я помню наступ той пары)
З замшэлых лежняў уздымалі
І клалі ў новыя муры.

Зрывалі дошкі — нібы порах,
Вакол курыў пытлёвы дым...
Цяпер на месцы тым пагорак
І неба голае над ім.

Цяпер прастор на кіламетры,
І даль — ні меж, ні берагоў.
І быццам кружыцца паветра,
Само паветра без яго.

* * *

А сэрца ўсё туды вядзе,
Дзе паварот, канец бульвара.
Дзе стогнуць цяжка самазвалы
І ад завода дым ідзе.

Дэталі газавай пліты
Відаць з акна, як хтось тасуе.
І недзе ж там яна цынкуе
Для іх патайныя вінты.

А сторож ходзіць ля варот.
І ты навостран да прахожых.
І гаману так цемра множыць,
Калі са змены йдзе народ.

## МАЯ ПАРА

Мінулі дні наіўнай волі,
Дзе я ў лапту любіў гуляць.
Цяпер пара засеяць поле,
Каб ураджай на ім сабраць.

Трымаю сырамяць ляйчыны,
Іду па мяккай баразне.
Сышлі бацькі на адпачынак,
Свой перадаўшы клопат мне.

Адной рукой араць, другою —
Адводзіць свет ад наслання.
Тут на жніво маё густое
Ахвоча столькі варання.

Пара, пара для песні шчырай,
Высокай песні на зямлі.
І не па мне сумуе вырай,
Не мне махаюць жураўлі.

І не хачу інакшай долі
І лёсу лепшага ў жыцці,
Ды нельга ўжо вось гэта поле
Узяць і проста перайсці.

## АСЕННІ РАНАК

Усход, як хлопчык разрумянены,
Драмаў, уткнуўшыся ў туман.
Мы йшлі ў грыбы ранютка-раненька
Па сцежках восеньскіх палян.

Святлей, чым днём, было ў бярэзніку.
Танулі ў верасе кашы.
Ты тут шаптала мне гарэзліва:
— Пра гэта месца не кажы.

У сыраежцы ціхай скалачкай
Іграўся згублены прамень.
Я клікаў даль. Не адклікалася
Ні ты, ні птаства, ні глухмень.

І толькі дзесь з працяжным голасам,
Тваё шукаючы сляды,
Ад лесу рэха адкалолася
І стала песняй назаўжды.

## МАРКІЯНУ ГЕРМАНОВІЧУ

Выдатнаму ваеннаму дзеячу, члену Рэўваенсавета, саратніку М. В. Фрунзе

Памяць — для нас завяшчанне.
Памяць — былога душа.
Як там табе, Маркіяне,
Ў вязкай вадзе Сіваша?

Праўда пад кулі насіла...
Голад, разладдзе, вайна.
Многа дарог у Расіі,
Толькі Расія адна.

Годы схавалі магілу,
Лепшых сяброў і людзей.
Знаем, за што ты загінуў,
Толькі не знаем — дзе.

Хвалі панурыя коцяць.
Як нечакана было!
Недзе на самым узлёце
Неба на вочы лягло.

Быў малады і вясёлы,
Кнігі чытаў па начах.
Двойчы гарэла ўжо школа,
Што ты калісьці канчаў.

Не спадзяюся на цуды...
Дайце каня — даскакаць.
Буду, настойліва буду
Шлях палыновы шукаць.

І анічога не зменіш.
Як да крыніцы іду,
З самага краю Дзяменіч *
П'ю з тваёй студні ваду.

---

* Дзяменічы — вёска пад Брэстам, дзе нарадзіўся і вырас М. Я. Германовіч.

* * *

Адыходзяць, мінаюць гады.
Непрыкметна знікаюць запасы.
Але цешыць адно назаўжды,
Што жывеш пасярэдзіне часу.

Пасярэдзіне лепшай пары,
Дзе зрушэнні і веліч на пáру,
Дзе аруць гарызонт трактары
І да зор размахнуліся мары.

І ты прагнеш, каб свет маладзеў,
І, захоплены гэтым бязмежным,
Свой кароткі касуеш удзел,
Бо да іншага ўжо прыналежны.

* * *

Як глуміць верасень траву.
І горкі пах апошніх кветак,
І крапівой згарае лета,
Што ў плот праткнула галаву.

А я стаю на схіле дня.
Гляджу, кругі зацяжна вузяць.
То ж апускаецца на лузе
Мая нябесная радня.

Адно хоць выпрасіць — пяро...
Але, не ў сілах быць крылатым,
Я падыду і дам зарок —
На ўсё жыццё быць іхнім братам.

* * *

І чутно мне, як крык жураўліны
На радзіму напрамак бярэ.
А у небе, далёкім, былінным,
Самалёт, як Мікула, арэ.

Сонца ссыпала промнямі сцежкі,
Разаслала аблокі ў вадзе,
Нібы з кветкамі, босы і пешкі,
Хтосьці вельмі жаданы ідзе.

* * *

Яшчэ ні смутку, ні нуды.
Вакол — гармонія, парадак.
Звіняць над полем правады,
Пяюць табе і даляглядам.

Яшчэ спаволены гады.
Яшчэ так блізка аглядацца.
Але не раз прыйдзеш сюды
З дарог вялікіх спавядацца.

* * *

Хутчэй на крук хамут павесіць
І каля фермы па двары
Прамчаць туды, дзе ясны месяц,
Дзе хтось ад зорак закурыў.

Я буду вольны йсці дадому,
Туды, дзе зоры і святло.
Туды, дзе цела крылы помніць,
Хоць гэтых крыл і не было.

## СЭРЦА

У чалавека два органы слыху,
Два органы зроку.
Дзве рукі ў чалавека.
Усё сіметрычна, з запасам трываласці.
Тут бачыцца шчодрасць
І розум прыроды.
Адно толькі сэрца
Абдзелена лёсам.
Няма яму роўні,
Няма двайніка.
І ў гэтым сама недарэчнасць тварца,
Што ў целе яго прытуліў сірацінку,
У левым баку і з пустэчай на пару.
Але адчуванне такой адзіноты
Высокія мары заўжды нараджала,
І сэрца сабе спачування шукала
У звонах зімовых,
У песнях вясновых,
У гойданні кветак
На лузе зялёным,
У ціхім паглядзе жанчыны прахожай.
І сэрца ад гэтай спагады мудрэла,
І свет гарманічны яно сатварыла,
Каб часам было каму
Пець і журыцца.
Каб лепей жылося яму,
Сіраціне.

* * *

Можа, варта на міг прыпыніцца,
Каля брамы ў цішы пастаяць.
Ні душы. Толькі мох на званіцы,
Толькі сосны, як вёсны, шумяць.

Ў купалах адкупаліся промні.
Адышла, адспявала царква.
Я кахаў тут. Ніхто не успомніць —
Ні званы, ні вятры, ні трава.

Санцачубы, звычайны аўторак,
Святкаванне... канікулы... Спас.
Цырымонна прыезджы фатограф
«Кампануе» пад ліпамі нас.

А кірмаш перапоўнен вазамі,
Аглаблямі пад неба ўстае.
Я не бачу ні яблынь, ні брамы.
Я адну толькі бачу яе.

Можа, збочыць з дарогі, спыніцца.
Падысці і травы не памяць...
Звон патух, толькі мне над званіцай
Серабрыста аблокі звіняць.

* * *

Якая раніца ў сяле!
Кідаюць снег, шуфлямі шухаюць.
І белы плот, і белы лес
У снег па макаўку ўшушуканы.

Такая чыстая пара!
Тэхнічка печы напаліла.
Спяшала ў школу дзетвара
І ў ранне выліла чарніла.

Цяпер тут свята на зямлі.
Пад снег схавалася работа.
На ферму штатніцы пайшлі,
Пайшлі, пакопсаўшы сумёты.

Малога ў хаце не ўтрымаць.
Малочня грукае бідонамі.
...І кот, як выгнаны прымак,
Пад прызбай грэецца з варонамі.

* * *

Я гэты сум не сам сасватаў.
Тут толькі ты ўсяму віной.
Душа, забыўшыся пра святы,
Усё жыве табой адной.

Ці не таму мне ўсё чароўна...
Ну прыплыві ў маё акно,
Мая на сёмым небе поўня,
Мая таемнасць і святло.

* * *

Поўдзень. Дымок. Аднапутка.
Кругам ідзе галава.
Белая, белая будка,
Як над вадою царква.

Мерыць бы даль гэту вокам —
Долі не трэба другой.
Недзе далёка-далёка
Неба сышлося з зямлёй.

І ні душы, нікагутка.
Толькі раўніна звініць.
Толькі дзяўчо каля будкі,
Як незабудка, стаіць.

Мо падысці для размовы.
Вочы здалёк — як агні.
...Раптам гарачыя словы
Свістам разрэжа цягнік.

* * *

Цяпер няма цябе нідзе.
На месцах стрэч вятры гуляюць.
На прыпечку маіх надзей
Твае вуголлі не страляюць.

Яшчэ не раз зіма міне,
Яшчэ не раз гаі зазвоняць.
А ты не прыйдзеш да мяне
Ні сумаваць і ні сваволіць.

Нашто цяпер спакой і лад?
Нашто мільгнула ценем лёгкім?
Няўжо ж усмешка і пагляд —
Матэрыял для шчасця крохкі?

* * *

Сесці б і выказаць душу.
Змераць бы словам прастор.
І анічым не парушыць
Гэтай дрымоты азёр.

Не наглядзецца б уволю...
Боязна ў шуме асін
Думаць, што прыйдзецца колісь
Гэта пакінуць зусім.

Лета, кароткае лета!
Чым я аддзячу яму?
Дзе я, даўжнік перад светам,
Слоў найдарожшых вазьму?

Цешыцца тым, што я буду
Воблакам тут ці лазой,—
Гэта нішто перад цудам,
Гэта дарунак не той.

## НА ЛАГЕРНЫХ ЗБОРАХ

Спяць завеі,
Спяць вятры у дуплах.
Сочыць заяц
З кожнага куста.
І трашчыць,
Нібыта рэпрадуктар,
Прорва ночы
Іскрамі кастра.
Мы чакаем.
Нам у гэтым лесе
Новы год страчаць у шынялях.
Зараз во
Ў сасну ударыць месяц —
І праб'е курантамі зямля.

* * *

Я слова нітую са словам.
Мы з сэрцам да ранку ўдваіх.
У пальцах нагрэты аловак —
Паяльнік сакрэтаў маіх.

Адкрыю не сшытак, а дзверы.
І здзівіцца заўтрашні свет.
Аловак на белай паперы
Пакінуў абвуглены след.

* * *

Няблага жыў... Калодзеж, агарод.
«Сабака злы» — вісела на варотах.
Хоць раз туга ўзяла б у абарот,
Што смертны ён, як восенню лістота.

У дзень, апошні, выбіўшыся з сіл,
Жадаў, каб знак узняўся на магіле.
І камень, што за пазухай насіў,
Прасіў, каб там на грудзі палажылі.

* * *

Злягло, склубілася кругом.
Ужо не хутка сонца выгляне.
З зямлёй барукаецца гром,
Нібы бычок на вузкім выгане.

Як страшна ўсё — не пазнаю —
У гэтым чорным паднябессі...
І толькі кнігаўка сваю
Ўсё тончыць песню.

* * *

Як мілы твар з музейнай рамкі,
Глядзіць завоблачны дзянёк,
Дзе з прорвы хмар, нібы з вагранкі,
Ліецца вогненны струмок.

Бяжыць струмок — рабочы промень.
Ён фармаўшчык. Давай каўшы.
Вось ён паляны перапоўніць,
І будзе светла на душы.

І п'юць трава і лес зялёны.
І гэтай прагі не суняць.
Слупы ў дратах, як камертоны,
Над дымнай просінню звіняць...

## САКАВІК

Піла пад вечар густа жахае.
На снезе цені, цішыня.
Чырвонай трэсачкай на захадзе
Гарыць, палае палазня.

Зямля дрымотна сокі рухае.
Ты прыпыніся, пот сатры.
Сякера стукне ў сук ды слухае,
Як рэха ёкае ў бары.

І кожны дзень, як конь распрэжаны.
Якія далечы ў каня!
Вярхі далёкіх дрэў мярэжаны
Гарластым граем варання.

Прамёрзнуць лужы ўночы досуха,—
І пад падэшвай лёд пяе.
Дадому кот прыходзіць досвіткам
Ды ўсё расол халодны п'е.

## А МАМА НІКОЛІ НЕ ВЕРНЕЦЦА...

Бяды не папravіш. Бяда.
А сэрца пярэчыць, не верыцца.
Аблокамі стане вада
І ўсё-такі ліўнямі вернецца.

Як дом будавалі вясной,
Да новага зруба хадзіла.
Стамілася, спіць пад сасной
На цеснай і вечнай сядзібе.

Няма цяпер мамы маёй.
Зайшло маё светлае сонца.
Зачынены дзверы за ёй
З той стараны гарызонта.

Кросны, каўроткі, чаўны
Памяццю, прахам абернуцца.
Звоняць і звоняць званы,
Што мама ніколі не вернецца.

Да жудасці крыўдны спакой.
Буслам пакланяемся, дрэвам.
Няўжо гэты серп пад страхой
Нікому цяпер не патрэбен?

Адновяцца рунню палі,
Па плану адкрыюць лячэбніцу,
Дамоў прыляцяць жураўлі,
А мама ніколі не вернецца.

Хаваем свой боль пад замком,
Гора хлябнуўшы лішак.
Да бога, такі ўжо закон,
Ніхто апеляцый не піша.

У порт прыплывуць караблі,
Вернецца вязню воля.
Вяртаецца ўсё на зямлі,
А мама ніколі, ніколі...

## НАШ ХЛОПЕЦ

*Касманаўту Пятру Клімуку*

У бязмежжа, да краю Сусвету,
Абудзіўшы між зор цішыню,
Хай нясе наш хлапец эстафету
Па няторнай дарозе агню.

За бартом — дарагая планета.
У планеце той бацька ляжыць.
Прадаўжаецца эстафета.
А інакш немагчыма і жыць.

Тэлевізар гарыць да світання.
Маці сына чакае, не спіць.
Выйдзе з хаты, у неба пагляне,—
Як над вёскаю зорка ляціць.

А на сэрцы і сум, і трывога.
Хто падумаў бы, хто б расказаў?!
І стаіць... І ў пыл на дарогу
Маці падае ціха сляза.

## НА ЖАЛЕЗАБЕТОННЫМ ЗАВОДЗЕ

Дойліды ЦУМаў,
Палацаў і вежаў!
Вам пабрацімства
Бетону й жалеза!
Ў бункерах месяцца
Тысячы тон.
Камбайн напаўняе
Даверху паддоны.
Ўключыць дзяўчо вібрастол —
Каменне чарльстоніць,
Гайсае ў бетоне.
Гляджу,
Як тоне,
Каркас ужо тоне,
Як сетка касая дажджу.
А з кранаў, з кабін
На ўсю Беларусь
Крыляюць усмешкі дзяўчатак.
Пральецца званочак —
І цісне прыгруз,
Нібыта на пашпарце
Ставяць пячаці.
Бетон скамянее,
Ён стане такі,
Што, скажам, здзівіліся б грэкі:
Як мармур прывабны,
Як бронза званкі,
І моц — для вялікага веку.

Каркас разагрэты кладзецца
у правушыны...
Дойліды будучых дзён!
Вам наш бетон папярэдне напружаны!
Вам
Нашых сэрцаў
Агонь!

* * *

Вярнуцца сіняй раніцой,
Веласіпед схаваць за дровы.
І ўдзячным быць на ўсё жыццё
За міг кароткі, выпадковы.

У сена ўпасці і ляжаць,
Павесіўшы на цвік пад кроквай
Набраклы вільгаццю пінжак,—
І думаць, думаць нетаропка.

І будзе промень залаты
Спяваць з-за коміна ў аконцы
Пра тое, што шчаслівы ты,
Што так і будзе ўсё бясконца.

* * *

Па дарозе мяце лістапад.
У прысадах вятроў галашэнне.
Наступае вялікі абрад —
Палымяны абрад ачышчэння.

Наступае святая пара!
Сам сабою жыву. Я на броні.
Я не ваш. Вы не стойце ў дзвярах,
Не грыміце — ўваход забаронены.

Хай душа у цішы адпачне.
Пасля свят пачынаецца будзень.
Адпяваеце рана мяне,
Нецярплівыя, строгія людзі.

Адчужэнне, каб жыць і любіць.
Каб вяртацца да вас і да слова.
Трэба нешта адкінуць, забыць
І складаць сваю долю нанова.

Будзе сонца, вясна зазвініць,
З салаўямі лясы павянчае.
А пакуль ні лісця, ні сініц.
А пакуль — немата і маўчанне.

* * *

Жыве ва мне мара адна —
За яваю следам гарачым
Ісці, дабірацца да дна,
Усё да канца растлумачыць.

## СЦЯНА

1

Хачу чытаць былое нанава.
Хачу стаяць у тым акне,
Дзе постаць паўстае Наганава,
Як подзвіг на былой вайне.
Туманіць скруха часта вочы,
Што іх няма сярод жывых.
Я ўсё пра тых, хто тут
аднойчы
Упаў на межах агнявых.
Пад сонцам славы
ім не грэцца...
Ў фартах буркуюць
галубы.
Стаіць сцяна. Над ёю
дрэўцы,
Нібы трава пасля касьбы.

2

Крэпасць — ад бэзу цесна.
У лісці звіняць шпакі.
Крэпасць! Ты мужнасці песня,
Якая раўняе штыкі.
Ведаць бы справы
вясёлыя!

...Са збур'янелых валоў
Зноў узнікае пад полымем
Мужнасць, адвага байцоў.
У людным патоку веснім
Нешта ад жалю ёсць.
Крэпасць, імя тваё вечна,
Як вечна зямлі маладосць.
Уляжацца боль, ацяжэе.
Але несканчоны шляхі
К гэтым фартам
заімшэлым,
К гэтым падвалам глухім.
Хай пад вітрынаю неба
Час беражэ камяні.
Як да зарэзу мне трэба
Помніць мінулыя дні!

3

Падымайся на бой,
Бераг праведны, правы.
Вераломны агонь
Па адкрытых заставах.
Танкі йдуць напралом
Па жытах, па аколіцах.
Азвярэлы агонь
Па зялёных аколышах.
Над начным Мухаўцом
Згублен голас хлапечы...
І казармаў кальцо
У агні, як абечак.
Самалёт наўздагон.
За налётам — налёты.
Самы моцны агонь
Па мастах, па варотах.
Ўсё у дыме кругом,

І не выжыць нікому.
Спусташальны агонь
Па ўсяму па жывому.
Абарвала балкон.
І сцяны — як не стала,
Ашалелы агонь
Па дамах камсастава.
Колькі ж ярасці, зла
У той кулі-забойцы,
Што праз камень прайшла
У білет камсамольскі.
Быў фасад і тарэц.
Было гладзенька зроблена.
Ўсё, што можа гарэць,
Гэтым гулам ахоплена.
І ратунку нідзе,
І бяда не у тэрмін.
Толькі неба гудзе
Ды бушуюць цыстэрны.
Ні гудка, ні званка
Ні са штаба, ні з арміі.
Сярод белага дня
Ноч лягла над казармамі.

4

Каму прарвацца — біцца
ў лясах.
Каму астацца — не тужыць,
не плакаць.
Адважных двое —
песня й камісар,
Што падымаюць першымі
ў атаку.
Ці то не ён штыком сваім
пісаў

Радзіме на сцяне
прызнанне.
Ёсць толькі двое —
час і камісар,
Што ўтаймаваць умеюць
замяшанне.
Салдату нельга да бяды
спіной.
А камісару — тройчы
забаронена.
Вядома ночы, толькі
ёй адной,
Як на рукаў была сляза
абронена.
Усіх — адной надзеяю
звязаць...
Няўжо не прыйдуць нашы
на падмогу?
Ўначы іх двое — сэрца
й камісар,
Што ў дальнім гуле
слухаюць трывогу.

5

Апошні прымаючы бой,
Як жутка, ўпаўшы
ад стомы,
Астацца самому з сабой
І дзесь паміраць
невядомым.
І недзе на ўскраіне дня
Глядзецца у неба Радзімы.
І ведаць, што ты і яна
У гэтым агні недзялімы.
Аддаўшы Радзіме сваёй

Усё, што зацверджана
верапо,
Нібы на Галгофе якой,
Ляжаць галавою
да швелера.

6

Адкуль так «Кацюшу»
пяюць?
Адкуль угаворы, пагрозы?
Даецца гадзіна на роздум,
І ў рупар мінуты б'юць.
На захад пайшлі бамбавозы,
Зманліва улёгся гуд.
Гадзіна часу на роздум,
На самы вышэйшы твой
суд.
Час, каб каменне
рассунуць.
Час, каб зірнуць наверх.
Як цішыня не пасуе
Гэтаму пеклу цяпер!
Вее ад песні сумам.
Ў сэрцы дум крутаверць.
Думай, родненькі, думай.
Думай — жыццё ці смерць.
Не, не мага за гадзіну
Ўстоі твае ўскалануць.
Толькі
не здрада Радзіме
Пад гэтым канвоем мінут.
Стукае рупар нервова.
Стрэлкі паскорылі ход.
А за сцяной тэрмінова
Склікан партыйны сход.

Рупар крычыць
пра Калінін
І пра разбіты Ржэў.
Даецца адна гадзіна,
Гадзіна — стагоддзя
даўжэй.

7

У кустах, ад пражэктара
ўзбоч
(Толькі каскаю чэрпаць
намерыўся),
Я забіты ў першую ноч
На заваленым трупамі
беразе.
Будуць жыцці жыццё
нараджаць,
Будзе свет маладзець
непрыкметна.
І не варта мяне асуджаць,
Што я лез у агонь
апраметны,
Што не мог я сябе
ўберагчы
Для атак, каб мацнець
абароне.
Ад жыцця адабраны
ўначы,
Я — на беразе гэтым
зялёным.
Вы мяне не павінны судзіць.
Я тут чуў, як паранены
ўпотай
Шэпча ледзь глухаватае
«Піць!»,

Калі трэба паіць кулямёты.
Ні штыка, ні гранаты
у мяне.
Я ўсё там на зямлі
зруйнаванай...
Нібы тая цагліна ў сцяне,
І я ў вашыя дні
ўмураваны.
Хай плывуць, як аблокі,
гады.
Гэта я ў абнаўленні
прыроды.
Я тут — шчэбет, трава
ля вады,
І прысутнасць мая —
назаўсёды.

8

Упэўнены у праваце
адзінай,
Што нешта важнае зрабіў,
Спі сынам часу і Радзімы,
Спі, Федзя, спі.
Ты мыў катлы, падлогі
драіў,
На маршах суп варыў
з грыбоў.
Ты б жыў і жыў. На кулю
трапіў.
І стала удавой любоў.
Цяпер навокал
ціш суровая.
Вянкі, прызнанне у любві.
Ты быў на ўсю брыгаду
поварам.

Спі, Федзя, спі.
Спачыць хацела абарона.
Было турбот, было
і спраў —
Знайсці бінтоў, дастаць
патронаў.
Спі, ты тады зусім
не спаў.
Гадзіннік, што у час
разлукі
Нявесце колісь падарыў,
І нашым дзецям і унукам
Пра вернасць будзе
гаварыць.
Ты б рады быў, каб сёння
ведаў:
Замест цябе ў страі
ўжо сын.
Каханне вечна, чуеш,
Федзя.
Над ім не ўладны бег
гадзін.

9

Тут так нема, што і слова
не гучыць.
Тут так ціха,
што не трэба красамоўя.
Скамянела, так зацята
ўсё маўчыць.
«Невядомы», «Невядомы» —
ва ўзгалоўі.
«Невядомы» — і ускладзены
вянок.
Толькі душу нечакана
ўскаланула,—

Сінявокі пасярэдзіне
лянок,
І напісана: «Ад сына
і матулі».
Было ў кожнага прыгожае імя,
У гасцях прыпаміналася
і дома...
Вераломная, каварная
вайна
Векапомнае дала ім —
«Невядомы».

10

Шукалі — каторы час.
Ты з намі цяпер,
Валаніцын,
Цяпер ты у памяці ў нас,
Нібы васілёк той у жыце.
Рака забыцця ўсё вузей,
Ўсплываюць імёнаў
кагорты.
Быў штаб. Тут сягоння
музей —
Які ўваскрашае
мёртвых.

11

Верачка — свет дабраты
У імені гэтым крылатым.
Яе шанавалі байцы,
Яе паважалі камбаты.
Вораг страляў па руках,
Якімі байцоў бінтавала.
А кветкі раслі на мурах,

Каб Веру жыццё
успамінала.
Ўпадзе птушанё і ляжыць.
Лётаць, крылатае, вучыцца.
Значыць, жыццю тут
хацелася жыць.
Стала жыццё неўміручасцю.
Цяпер тут імя на пліце,
Ўгранёная ў камень
вядомасць,
А Вера пісала ў лісце,
Што хутка прыедзе дадому.
Рака выцякае з лагчын.
Рака ў невядомае коціць.
А Вера любіла ўначы
Чытаць пры падкручаным
кноце.
Помняць жывыя ўсе:
Тут навакол цытадэлі
Кветкі на сонцы ў расе,
Нібы вясёлкі, гарэлі.

**12**

Чорнае дрэва — ахвяра
агню.
Ані сучка, ні кроны.
Цемру начы, ва ўсю
глыбіню
Позірк свідруе ўтрапёна.
Так і стаіць з набалелай
тугой.
Хай гэта стане догмай:
«Не калупайце пазногцем
яго»,—
Чуецца, дрэва стогне.

Мы падыходзім, спыняем
пагляд,
Яму непрыхільна з намі,
Яно, як апалены ў танку
салдат,
Матуляй сваёй не пазнаны.
І не разбудзяць сокі вясны.
Вясёлка яму не накіне
чэпчык,
Дрэва вайны. «Не трэба
вайны»,—
Кожная трэшчына шэпча.

13

Заліваючы бетон у катлаван,
Мы, мантажнікі, і цеслі,
і рамонтнікі,
Прысвячалі вашай памяці
і вам
Нашы ленінскія шчырыя
суботнікі.
Мы вянкамі вашы даты
аплялі.
Вашу славу па планеце
паразвозілі.
Мы вам брацкі надмагільнік
узвялі,—
Аб жалеза затупіліся
бульдозеры.
Як вы доўга тут маўчалі,
змагары,
І імёны, што крывёй былі
заліты,
З прафсаюзнага білета
медсястры

Мы так позна пераносілі
на пліты *.
Дзе вы біліся, надзеямі
жылі,
Быццам чуем метраномаў
вашых цінькание.
Мы пад кабелі траншэі тут
вялі
І знаходзілі пілоткі і
гадзіннікі.
Што вы нашы, што вы
вернымі былі,
Пазнавалі мы па сцягах
на астанках.
Спачывайце пасярэдзіне
зямлі,
Так падобныя у подзвігу
на Данка.

**14**

Помнячы ліха былое,
З думай пра мір дарагі
Людзі трафейную зброю
Пераплаўлялі ў плугі.
Можа, з такімі вось марамі
Там, дзе грымела вайна,
Штык да планеты
прывараны.
А на планеце вясна,

---

* У час абароны крэпасці медсястра Ткачова П. Л. на сваім прафсаюзным білеце запісвала прозвішчы параненых.

Мужным народам
праслаўлены,
Хай ён стаіць для вякоў.
Ў ім на метал пераплаўлена
Каля мільёна штыкоў.
Цішаю неба напоўнена.
З прысаку чорнай вайны
Б'е высачэзнае полымя,
Нібы званар у званы.
Хай на зямлі абароненай
Мірныя свецяць агні.
Штык гэты — стрэлка
барометра,
Стрэлка на ясныя дні.
Ў сэрцах у нас, абаронцы,
Попелу ваш дынаміт.
Штык — абаронца
сонца
І сівых пірамід.
Не для баёў і прарыву,
Гэта на памяць аб вас.
Гэта каб мы гаварылі
Цераз прасторы і час.
Выраі дзён неўміручага
Будуць ляцець за раку.
Будуць вятры рэвалюцыі
Адпачываць на штыку.

## ЗМЕСТ

Иван Павлович Арабейко
ОСЕННЕЕ УТРО
На белорусском языке
Рэдактар І. І. Калеснік. Мастак В. В. Даўгань. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічныя рэдактары М. Ц. Папкова, Л. М. Шлапо. Карэктар Н. А. Давыдзенка.
ІБ № 228
АТ 09561. Здадзена ў набор 26/VII 1977 г. Падп. да друку 1/II 1978 г. Тыраж 5000 экз. Фармат 70×90$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,34. Ул.-выд. арк. 1,69. Зак. 585. Цана 20 кап.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Паркавая магістраль, 11.
Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Арабейка І.**

А 79 Асенні ранак. Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1978.

64 с. з іл.

Думкі і жаданні нашага сучасніка, прыгажосць навакольнага жыцця і асэнсаванне прызначэння чалавека на зямлі — вось галоўныя матывы вершаў новага зборніка Івана Арабейкі.

А $\frac{70403-039}{М 302(05)-78}$ -78 Бел 2